БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

*16 жніўня 1994 г.*
*Аўторак*
*№ 89 (13806)*
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года


*Малюе Віктар ДУБОВІК*





Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Хлеб больш не вывозяць

*Чатырохдзённую буйную аперацыю з прымяненнем верталётнай тэхнікі, іншых найноўшых сродкаў выяўлення і сувязі правялі мытнікі ў Горацкім раёне на мяжы з Расіяй.*

Як паведаміў начальнік Магілёўскай мытні Леанід Досаў, пасля павышэння цэн не выяўлена ніводнага выпадку вывазу хлеба, мясных і малочных прадуктаў. Затрыманы толькі "мяшэчнікі" з агароднінай, бульбай і таварамі народнага спажывання. Прадухілены вываз прадукцыі на дзесяць з лішнім мільёнаў рублёў.

### "Паляванне" на злачынцаў

*Па ўказанню міністра унутраных спраў Юрыя Захаранкі ў канцы мінулага тыдня ў Мінску праводзілася шырокамаштабная аперацыя па ўмацаванню правапарадку.*

Для яе ажыццяўлення прыцягваліся органы і падраздзяленні УУС гарвыканкама, супрацоўнікі апарата МУС рэспублікі, АМОН, аддзяленне спецыяльнага прызначэння, унутраныя войскі. Толькі за адны суткі ў сталіцы было выяўлена і прадухілена 97 злачынстваў, затрымана 27 чалавек, якія знаходзіліся ў вышуку, канфіскавана 9 адзінак зброі. У час аперацыі праверaны і "адпрацаваны" 3087 прытонаў, кватэр, месцаў скупкі крадзенага, гасцініц, кафэ, бараў і рэстаранаў. Не засталіся без увагі і інтэрнаты, жылыя масівы, дыскатэкі і аўтастаянкі. Было праверана 77505 адзінак транспартных сродкаў.

У ходзе аперацыі прадухілены вываз са сталіцы буйной партыі вырабаў з каляровых металаў і прадуктаў харчавання.

### Яшчэ адзін міністр

*Як стала вядома, у бліжэйшы час будзе аб'яўлена аб змене кіраўніцтва Міністэрства аховы здароўя рэспублікі.*

Мяркуючы па ўсім, у Кабінет Міністраў увойдзе яшчэ адна прадстаўніца "прыгожай палавіны". Паводле звестак з кампетэнтных крыніц, міністрам аховы здароўя стане Інеса Драбышэўская, народны дэпутат, якая цяпер узначальвае анкалагічны цэнтр у Гомелі.

### З днём нараджэння, "Зубраня"!

*Свой чарговы, ужо 25-ы, дзень нараджэння адзначыць 17 жніўня гэтага года вядомы ў рэспубліцы дзіцячы аздараўленчы лагер "Зубраня".*

І хоць ён ужо даўно выйшаў з дзіцячага ўзросту, але па-ранейшаму малады і звонкагалосы. Толькі за адну змену на беразе Нарачы аздараўліваецца 640 хлопчыкаў і дзяўчынак. А за год тут папраўляюць здароўе, загартоўваюцца, вучацца сябраваць і працаваць больш чым 6 тысяч беларускіх дзяцей.

Пабудаваны чвэрць стагоддзя таму лагер "Зубраня" да гэтага часу прытрымліваецца сваёй галоўнай традыцыі. Сюды прыязджаюць адпачываць перш за ўсё лепшыя з лепшых. Пераможцы фестываляў, конкурсаў, алімпіяд, выдатнікі вучобы. Тут вырашылі не пакідаць у бядзе і дзяцей, якія пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гаючае паветра лагера, добрыя адносіны важатых і выхавальнікаў па-сапраўднаму лечаць іх. Многім дзецям з анкалагічнымі захворваннямі ўдалося пасля адпачынку тут значна адкласці тэрміны аперацый. А ўсяго за час існавання беларускага "Артэка" тут пабывала больш за 150 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак. Як і раней, дзяржава дапамагае фінансаваць работу лагера. Таму цана пуцёвак у "Зубраня", можна сказаць, сімвалічная. Месячны адпачынак дзіцяці каштуе бацькам усяго 40 працэнтаў ад устаноўленай мінімальнай зарплаты.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Прытулак для рынку

*У міні-рынак ператварылася апошнім часам адна з невялікіх вулачак Гродна недалёка ад аўтавакзала.*

Напачатку яе аблюбавалі вясковыя гаспадыні, што прапаноўвалі прахожым пару дзесяткаў яек ці клінок сыру. Але неўзабаве перавагі гандлю ў цэнтры горада ацанілі прыватныя гандляры, і вуліца Паліграфістаў стала як бы бясплатным філіялам рэчавага рынку. Зараз праваахоўныя органы ўзяліся наводзіць парадак і выцеснілі прыватных гандляроў за горад, на новы рынак у пасёлку Паўднёвы. Што ж, сэнс у гэтым ёсць: калі гандлюеш — плаці падаткі, але з другога боку дабірацца да Паўднёвага пакупнікам і доўга, нязручна. А ў самым цэнтры Гродна, па вуліцы Горкага, даўно ўжо пустуе адрамантаваны Грандзічскі рынак. Можа, якраз ён і мог бы стаць "залатой сярэдзінай" для ўлад, гандляроў і пакупнікоў.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### "Ганаровы" — гэта гучыць ганарова

*Цяпер у Віцебску 40 ганаровых грамадзян горада.*

Нядаўна такі тытул атрымалі галоўны інжынер прадпрыемства цепласетак "Віцьцепласетка" Міхаіл Георгіевіч Міхневіч і народны артыст Рэспублікі Беларусь, акцёр драматычнага тэатра імя Я.Коласа Фёдар Іванавіч Шмакаў.

Шкада толькі, што большага права, чым прысутнічаць на розных урачыстасцях у якасці "вясельных генералаў", яны пакуль што не атрымалі. Нават праезд у гарадскім транспарце для ганаровых грамадзян агульнапрыняты. Застаецца толькі маральны бок…

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

### Калгасныя…каўбасы

*Хто шукае, той знаходзіць, лічаць у народзе. У гэтым яшчэ раз можна пераканацца на прыкладзе калгаса "Беларусь" Асіповіцкага раёна, дзе вырашылі выпускаць каўбасу з уласнай прадукцыі.*

Заключылі дагавор з адной з бабруйскіх фірм, якая пераабсталявала адзін з калгасных будынкаў пад каўбасны цэх. Цяпер тут завяршаецца мантаж абсталявання (дарэчы, імпартнага, што закупіў калгас. Цэх будзе выпускаць не толькі каўбасу, але і кумпякі і іншыя смачныя вырабы.

**Іван СЦЯПУРА.**

### Вінаград не за Дунаем

*Чамусьці мы прывыклі, што вінаград абавязкова спее за Дуна-дуна-дунаем. На Віцебшчыне ён няблага сябе адчувае і за рэчкай Бярэзінай.*

Жыхары вёскі Бярозкі Докшыцкага раёна Мікалай Міхайлавіч Працукевіч і яго жонка Зінаіда Васільеўна на прысядзібным участку вырошчваюць не толькі вінаград, але і абрыкосы, глог, чарамшу. "І на Марсе будуць яблыні цвісці". Абы толькі быў у іх клапатлівы гаспадар.

**Уладзімір МІХНО.**

### Камяні лечаць і… варожаць

*Мінскі Цэнтр народнай медыцыны "Сантана" адкрыў Салон лячэбных самацветаў. На сённяшні дзень гэта адзіны ў свеце цэнтр, які лечыць хваробы мінераламі.*

У салоне размясцілася выстава сувеніраў і гаючых упрыгожванняў з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, Заіра, Мадагаскара, Кольскага паўвострава, Урала. Спецыялісты цэнтра, дыпламаваныя ўрачы падбіраюць сваім наведвальнікам гаючыя аздабленні пасля электрапунктурнага камп'ютэрнага даследавання, улічваючы, між іншым, і іх знакі задыяка. Сярод хвароб, якія лечаць мінералы, — астма, сардэчна-сасудзістыя, радыкуліт. У экспазіцыі прадстаўлены і вырабы з ружовага кварцу, які здаўна лічыцца прываротным "каменем кахання". Усеагульная цікавасць на выставе выпадае і на долю аздабленняў-засцерагальнікаў з "тыгровага вока" — распаўсюджанага каменя-талісмана на Усходзе. Выставы-продажы гаючых аздабленняў з мінералаў супрацоўнікі "Сантаны" вырашылі зрабіць пастаяннымі. А сваёй методыкай лячэння яны, магчыма, хутка падзеляцца і за мяжой. "Сантана" атрымала прапановы адкрыць філіялы цэнтра ў Італіі, Канадзе, Германіі, Англіі.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### Курсы валют на 15 жніўня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 25800 | 26800 | 16262 | 16900 |
| "Прыор" | 26300 | 26700 | 16500 | 16920 |
| "Дукат" | 25800 | 26800 | 16300 | — |

АФІЦЫЙНА

## Хто ж намі будзе кіраваць?

*Нягледзячы на тое, што большасць пасад у Кабінеце Міністраў рэспублікі ўсё яшчэ застаюцца вакантнымі, вобраз рэфармаванага ўрада ўжо выразна акрэсліваецца. Узначаляць яго прэм'ер і чатыры намеснікі, прычым кандыдатура на пасаду віцэ-прэм'ера па пытаннях прамысловасці і энергазабеспячэння ўсё яшчэ не вядома.*

Як паведамілі ў адміністрацыі прэзідэнта, прамое падпарадкаванне прэм'еру, а праз яго і прэзідэнту будуць мець Міністэрства абароны і Галоўнае ўпраўленне пагранічных войскаў. Прычым, у бліжэйшы час павінна вырашыцца пытанне, ці будуць гэтыя ведамствы функцыяніраваць незалежна адно ад аднаго, ці "непасрэдным начальнікам" пагранвойскаў стане Анатоль Кастэнка.

Без пасрэднікаў змогуць звязвацца з прэм'ерам таксама Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства замежных спраў і Міністэрства юстыцыі, пры якім вырашана стварыць Камітэт па архівах і справаводству. Новай структурай ва ўрадзе стане Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Менавіта пры гэтым ведамстве будуць функцыяніраваць Камітэт па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, Камітэт па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы, штаб грамадзянскай абароны і Камітэт па гідраметэаралогіі.

Асобна ў новым "штатным раскладзе" стаіць таксама пасада міністра па справах Садружнасці незалежных дзяржаў.

У веданні віцэ-прэм'ера Сяргея Лінга чатыры міністэрствы. Першым у гэтым спісе стаіць Міністэрства эканомікі разам з шэрагам камітэтаў — па антыманапольнай палітыцы, па статыстыцы, Камітэтам цэн, Камітэтам па эканамічных пытаннях абароны. Сяргею Лінгу таксама падпарадкаваны Міністэрства фінансаў і ствараемыя пры ім дзяржаўны страхавы нагляд, мытны камітэт, Камітэт па каштоўных металах, інспекцыя па каштоўных паперах і дзяржаўная падатковая інспекцыя. У "чацвёрцы" таксама Міністэрства працы разам з дзяржаўнай інспекцыяй працы і Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю.

У непасрэдным падпарадкаванні другому віцэ-прэм'еру — Міхаілу Мясніковічу — будуць знаходзіцца: Міністэрства знешніх эканамічных сувязей, Міністэрства транспарту і камунікацый разам з Камітэтам па выкарыстанню паветранай прасторы і кіраванню паветраным рухам, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва разам з Камітэтам дарожнага развіцця, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Міністэрства сувязі і Міністэрства гандлю.

Пакуль што без начальства засталося Міністэрства прамысловасці і створаны пры ім Камітэт па матэрыяльных рэсурсах і рэзервах і Камітэт хімічнай і мікрабіялагічнай прамысловасці. Такі ж лёс і ў Міністэрства энергетыкі разам з Камітэтам па энергазберажэнню і энерганагляду. Аднак вакантнай пасада віцэ-прэм'ера, які будзе курыраваць менавіта гэтыя ведамствы, застанецца, відаць, толькі да чарговай сесіі парламента, якая, як вядома, зацвярджае намеснікаў кіраўніка Кабінета Міністраў.

Міністэрствы сацыяльна-культурнай сферы падпарадкаваны віцэ-прэм'еру Віктару Ганчару. Туды ўвайшлі Міністэрства інфармацыі, Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі і навукі, Міністэрства сацыяльнай абароны, а таксама Вышэйшая атэстацыйная камісія пры Кабінеце Міністраў. Дарэчы, у веданне Міністэрства культуры аднесены Камітэт па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў, Савет па справах рэлігій і Камітэт па спорту. Пры Міністэрстве адукацыі і навукі будуць функцыяніраваць Камітэт па навуцы, патэнтны камітэт, Камітэт па метралогіі і стандартызацыі, Камітэт па справах моладзі і Камітэт па аўтарскіх і сумежных правах. А вось у веданне Міністэрства сацыяльнай абароны аднесены фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

Міністэрства сельскай гаспадаркі і Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя падпарадкаваны непасрэдна Уладзіміру Гаркуну. Дарэчы, "у адной звязцы" з другім з пералічаных міністэрстваў цяпер будзе працаваць Камітэт рыбааховы і Камітэт па зямельных рэсурсах і геадэзіі. Пры Мінсельгасе будуць функцыяніраваць Камітэт па хлебапрадуктах і Камітэт лясной гаспадаркі.

**БЕЛІНФАРМ.**



## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

**"Еўраньюс"** — **"Уорлднэт"** — **"Суперчэннэл"**

### "Ядзерныя кантрабандысты"

*У Баварыі арыштавана група "ядзерных кантрабандыстаў", якія нелегальна правозілі ў Германію вялікую колькасць урану-235.*

У групу ўваходзіла шасцёра грамадзян Чэха-Славакіі.

### Вугальны крызіс

*Самы вялікі за ўсю гісторыю крызіс перажывае вугальная прамысловасць Заходняй Еўропы.*

Паводле статыстыкі, толькі ў мінулым годзе ў краінах Еўрапейскай Супольнасці колькасць працоўных у гэтай галіне зменшылася з 215 да 175 тысяч чалавек. Самыя "рэкордныя" лічбы ў Вялікабрытаніі, дзе адбылося згортванне галіны на 55 працэнтаў. Як паведамляецца, крызіс выкліканы знікненнем запасаў карысных выкапняў.

### Самая жаночая выстава

*Выстава пад назвай "Мясцовыя багіні — ад старажытных да міфічных жанчын сённяшняга дня" адкрылася ў Ізраілі.*

Сярод самых старажытных "лэдзі" — масіўная фігура багіні ўрадлівасці, якая яшчэ каля 10 тысяч гадоў таму сімвалізавала жыццё і дастатак.

### "Мне зверху бачна ўсё…"

*У Харватыі выяўлены амерыканскія шпіёнскія базы.*

Менавіта туды ЦРУ перадыслацыравала свае самалёты-шпіёны з Албаніі.

### Крымінальная бабуля

*У Бразіліі арыштавана 62-гадовая гандлярка марыхуанай.*

Як паведамілі паліцэйскія, гэта самая старая з прадстаўніц гэтай прафесіі, якая штодзённа прадавала больш як 50 кілаграмаў наркотыку. Нягледзячы на сталы ўзрост, ёй пагражае 15 гадоў турмы.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"


Дзяжурны па выпуску Павел СІМАНАЎ.



Рубрыку вядзе Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-52

## БІЗНЕС-КЛАС

### Яшчэ адзін крэдыт

Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця мае намер адкрыць у Беларусі крэдытную лінію на 100 мільёнаў даляраў ЗША для рэалізацыі праектаў развіцця малога і сярэдняга бізнесу. Восенню бягучага года плануецца падпісанне двухбаковага пагаднення.

Паводле папярэдніх разлікаў, крэдыты плануецца выдзяляць тэрмінам на 16 гадоў. Банкі, у сваю чаргу, змогуць прадаставіць крэдыты беларускім прадпрыемствам па рыначнай працэнтнай стаўцы (ад 220 да 250 працэнтаў) тэрмінам да 8 гадоў.

### Новы сумесны банк

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь зарэгістраваў сумесны беларуска-латвійскі акцыянерны камерцыйны банк закрытага тыпу "Садружнасць". Заснавальнікамі новага банка выступілі дзве беларускія фізічныя асобы і латвійскі "MULTIBANKA". Статутны фонд банка склаў 500 тысяч даляраў ЗША.

### Лепшыя паедуць у Нідэрланды

"Ад планавай эканомікі да дынамічнага менеджменту". Семінар з такой назвай праводзіць мінскае аддзяленне Гандлёва-прамысловай палаты сумесна з Гаагскай асацыяцыяй нідэрландскіх прадпрымальнікаў. Каля 20 спецыялістаў вышэйшага звяна галін народнай гаспадаркі, банкаўскай сферы і малога бізнесу Беларусі абмяркуюць пытанні эканомікі, праблемы кіравання людскімі рэсурсамі і маркетынгу.

Лепшых удзельнікаў семінара чакае стажыроўка на аднатыпных прадпрыемствах у Нідэрландах.

БЕЛІНФАРМ.

### Не дыпломы, а кантракты

Пятнаццаць кіраўнікоў гандлёвых фірм Беларусі ("Партнёр", "Дзіфор", "Кампанент" і інш.) прайшлі двухмесячную навучальную падрыхтоўку, у ходзе якой пазнаёміліся з арганізацыяй работы заходніх бізнесменаў. Гэта акцыя ажыццяўлялася ў рамках сумеснага праекта Цэнтра падтрымкі прадпрымальнікаў "Цэнтр XXI стагоддзе" і нямецкай фірмы "Эдуплан". Раней тыя ж людзі прайшлі тэарэтычны курс навучання ў вопытных нямецкіх спецыялістаў у Мінску. А на завяршальны этап дадзеная праграма выйдзе ў кастрычніку бягучага года, калі 15 беларускіх прадпрымальнікаў зноў паедуць у Германію — на гэты раз для практычных кантактаў з заходнімі бізнесменамі для заключэння ўзаемавыгадных дагавораў.

Святлана КУЛІКОВА.

## КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# Чорны вал злачыннасці,

## ці Аб тым, якой цаной мы разлічваемся за капіталізацыю грамадства

□ Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ"

Глыбокай ноччу ў дрымотнай цішыні вышыннага інтэрната, што па вуліцы Алега Кашавога, у дзверы аднаго з пакояў пастукалі. "Сяроoriginally!" — знаёма аклікнулі яго. Сяргей, спрасонку яшчэ ні аб чым не здагадваючыся, павярнуў ключ замка. Тры хлопцы з добра напоенымі сілай біцэпсамі накінуліся з азвярэласцю дзікуноў. Білі доўга, люта. Невядома, колькі б ён пракачаўся там — у лужыне крыві, калі б раніцай выпадкова не адшукалі жыльцы суседніх пакояў. Яны нават не адразу змаглі яго пазнаць: твар быў знявечаны да непазнавальнасці. Жахнуліся і пабачыўшыя ўсялякае аператыўнікі: сцены, вокны і нават столь былі гэтак заліты крывёю, што здавалася, — быў гэта не жылы пакой, а камера жахаў.

Трэба меркаваць, хлопец адчуваў ужо блізкае дыханне смерці, — на кавалачку паперы, да якога дацягнулася рука, уласнай крывёю надрапаў: "Якое цудоўнае жыццё!".

Каму і навошта яно, адзінае для яго, як і для кожнага з нас, спатрэбілася? Чаму ў свае апошнія гадзіны ў бальніцы ён адмовіўся даваць паказанні работнікам міліцыі?

Атрымаць адказы на гэтыя пытанні можна будзе толькі пасля суда. Пакуль жа ідзе следства. Прозвішчы двух злачынцаў, паведамілі мне ў Партызанскім РАУС, ужо вядомы.

Такім чынам, здарылася чарговая трагедыя, якая стала чыёйсьці адкрытай ранай. І колькі ўжо гэткіх раненняў на целе грамадства!

"Зараз нібыта ніхто не пярэчыць, што сярод фактараў, якія аб'ектыўна ўяўляюць небяспеку ў перыяд капіталізацыі грамадства, следам за грымасамі эканомікі ідзе рост злачыннасці, — падкрэсліў у час гутаркі начальнік Партызанскага РАУС сталіцы, палкоўнік Пётр Аляксеевіч Сцефаненка. — Становішча спраў не можа не выклікаць неспакою. Па-ранейшаму ідзе лавіна крадзяжоў дзяржаўнай, асабістай маёмасці, уласнасці камерцыйных структур. Пасля пэўнага спаду зноў растуць лічбы па рэкету, "разборках".

Аналізуючы стан злачыннасці ў кантралюемым раёне, начальнік міліцыі зрабіў вывад аб тым, што характар яе сёння больш небяспечны, а карані — не толькі ў сацыяльнай, эканамічнай, палітычнай, але і маральнай дэградацыі грамадства. І, такім чынам, толькі карныя меры становішча не выратуюць. Недарэчна заклікаць людзей, якія жывуць у эканамічна цяжкіх умовах, фактычна — у галечы, не рабіць замахаў на чужую маёмасць? Зразумела, дасягнуць гарманізацыі інтарэсаў надзвычай цяжка. Але ці не гэта адзінае, што можа спыніць злачыннасць, зрабіць выключнымі антысацыяльныя паводзіны. Натуральна, шлях гэты ляжыць праз рашэнне кожнай з мноства задач эканамічнага, сацыяльнага, выхаваўчага, прававога планаў. Але ўсё гэта пакуль (на жаль!) яшчэ за гарызонтам. А сёння і цяпер працягваюць развівацца сюжэты пачварных, а нярэдка і жудасных жыццёвых гісторый. Пра іх і пагаворым.

"Вы ведаеце, — прызнаўся мне начальнік следчага аддзялення Партызанскага РАУС, падпалкоўнік Мікалай Васільевіч Канакораў, — я вельмі часта адчуваю пачуццё жалю і спагады да падсудных, напрыклад, калі ў крадзяжы абвінавачваюць жанчыну, якая спрабавала ўкрасці на вытворчасці кілаграм каўбасы, каб пракарміць сям'ю: муж, як высвятляецца, не працуе, а ў яе на шыі трое дзяцей, але разам з тым па-чалавечы абураюся, калі бачу, што перада мной — зладзеі, якія за ноч разбіраюць і вывозяць з дачных ці прысядзібных участкаў зрубы дамоў, дзелавую драўніну, а з прадпрыемстваў — каляровы метал, ці тыя, хто на працу ідзе з адзінай мэтай — уваравать што-небудзь і збыць "налева", каб да вечара надрацца, а калі не хопіць, то па п'янай лавачцы адабраць пасля кашалёк у першага сустрэчнага".

Безумоўна, злачынства злачынству розніца. Адзін становіцца ахвярай акалічнасцей, другога на злачынства штурхнула, напрыклад, непатольная цяга да спіртнога, трэцяга — прага нажывы. У кожным канкрэтным выпадку ёсць вінаватыя, адшукаць якіх часцяком няцяжка. А адшукаўшы — асудзіць, асудзіўшы — пасадзіць. Але ці часта мы задумваемся над тым, што ў нашыя прававыя сеткі трапляе ў асноўным дробная рыбка, а сапраўдныя мацёрыя ваўкі, месца якіх за кратамі, разгульваюць на волі, вагонамі сплаўляюць каштоўнасці за мяжу.

Даўно было зразумела: патрэбны неадкладныя меры па ўдасканаленню заканадаўства, узмацненню барацьбы з разбазарваннем народнага дабра, выкараненню злачынстваў. Шкода, якая прычыняецца краіне ў цэлым, гэтак і асобным грамадзянам, павінна кампенсавацца. А пакаранне павінна быць няўхільным. Менавіта гэты сэнс закладзены, у прыватнасці, у паняцце "барацьба са злачыннасцю"! Але, як сведчаць факты, на гэтым фронце ў нас пакуль без змяненняў. Будзем глядзець праўдзе ў вочы: краіну трасе ліхаманка. Адкрыеш раніцою газеты — жыць страшна! Крадзяжы, грабежніцтва, "разборкі", угон аўтатранспарту... Аб чым сведчаць гэтыя факты? Аб тым, што ўлады з усёй гэтай поганню не могуць справіцца. Не могуць — і ўсё тут!..

Так, праўда іншы раз сумная, яшчэ больш страшная. Але, толькі агаліўшы яе, скрупулёзна даследаваўшы прычыны, можна паспяхова змагацца са злом, супрацьстаяць яму. Хочацца спадзявацца, следства, а пасля і суд расставяць усе кропкі над "і" ў справе пра разбой у інтэрнаце па вуліцы А.Кашавога. А ў дасье следчага аддзялення Партызанскага РАУС, між тым, з'яўляюцца новыя запісы.

...Сустрэліся два прыяцелі, два камерсанты. Адзін мясцовы, другі таксама родам з Беларусі, але кватэра ў яго ў Кіеве, а працуе ў ЗША. Вырашылі адзначыць сустрэчу ў рэстаране. Там і пазнаёміліся з Таццянай і Алёнай. Прадоўжылі вячоркі ў кватэры. Напаіўшы сваіх спадарожнікаў віном з клафелінам, дзяўчаты, якія палявалі ў пажыўных месцах, у тую ноч вынеслі з кватэры магнітафон "Панасонік", скураную куртку, кейс з дакументамі па рабоце з фірмамі, вырабы з золата, прыхапілі, вядома ж, і даляры з маркамі.

Ачуняўшы і выявіўшы прапажу, камерсанты звярнуліся ў міліцыю.

У следчым аддзяленні ёсць цэлая картатэка, складзеная з дзяўчат лёгкіх паводзін, да таго ж зладзеек. Таццяна і Алёна, як высветлілася, з іх слаўнага атрада. Напачатку гэтыя дзве злачынкі ў спадніцах далі падпіску да высвятлення абставін аб нявыездзе. Але ў хуткім часе, адумаўшыся, кінуліся наўцёкі. Паводле некаторых звестак, у цяперашні час знаходзяцца на тэрыторыі Грузіі. А там страляюць, і гэта павялічвае складанасці з дастаўкай.

"Так, неабходна прызнаць той факт, што зладзеяў і зладзюжак развялося процьма, — наракаў палкоўнік Пётр Аляксеевіч Сцефаненка. — Калі раней, у перыяд "застою", чалавек яшчэ неяк асцерагаўся ўзяць на вытворчасці гайку ці цвік, то сёння цягнуць пад рознымі шыльдамі ўсё. Гэтыя факты, на мой погляд, сведчаць зноў жа аб тым, наколькі высокімі тэмпамі зніжаецца якасць "чалавечага матэрыялу". Разбураюцца маральныя асновы грамадства, былыя каштоўнасці і ідэалы, асабістыя і сямейныя надзеі, множацца, здавалася б, часовыя нягоды. Масавай з'явай, ужо не выклікаючай ні грамадзянскага пратэсту, ні нашага маральнага асуджэння, становіцца прастытуцыя".

Усё сказанае начальнікам міліцыі Партызанскага РАУС дае падставы сцвярджаць, што кошт, заплачаны за перыяд з дня капіталізацыі грамадства, перасягнуў гранічна дапушчальныя межы. Калі гэтак будзе прадаўжацца і далей, то вынікі могуць быць непрадказальныя.

"Як паспяхова супрацьстаяць гэтаму "чорнаму валу", як змагацца са злом, калі людзі з праваахоўных органаў і так працуюць на знос, на мяжы чалавечых магчымасцяў, — дадаў да вышэйсказанага падпалкоўнік Мікалай Васільевіч Канакораў. — У многіх аддзяленнях сталіцы, наколькі мне вядома, некамплект следчых, да таго ж штаты на парадак меншыя, чым у абласных гарадах, дзе нагрузка значна ніжэйшая. А следства, як вядома, — пярвічнае звяно пракурорскага нагляду. Раскрыць злачынства — адна справа, а расследаваць — зусім другая (тут неабходна дэталёва вывучыць і спосаб жыцця злачынцы, высветліць яго сувязі і г.д.). Адным словам, неабходны ланцужок доказаў".

Так, вал злачыннасці расце. У тым жа Партызанскім следчым аддзяленні за шэсць месяцаў гэтага года ўзбуджана на 64 крымінальныя справы больш, чым за аналагічны перыяд мінулага. Штат жа следчых павялічыўся ўсяго на два чалавекі: пасля заканчэння юрфака БДУ сюды, у следства, прыйшлі працаваць Тамара Жырава і Ала Казачэнка. Аднак ім, учарашнім студэнткам, ужо даводзіцца разглядаць па 5—6 крымінальных спраў за месяц па фактах грабяжоў, крадзяжоў дзяржмаёмасці. Справы самі па сабе бываюць складаныя і жудасныя. Да таго ж у злачынцы на карце стаіць уласнае жыццё: ён асцярожны, небяспечны, бязлітасны і вельмі часта хітры.

"Узяць хоць бы справу аб крадзяжы ў асабіста буйных памерах з магазіна ў Сцяпянцы, — прыгадаў нашумелую справу намеснік начальніка крымінальнага вышуку Віталь Манкевіч. — Злачынцы дзейнічалі, строга прытрымліваючыся плана, усё было ўлічана. Трапілі ў магазін і вынеслі тавар па каналізацыйнай сістэме. Раніцою, выявіўшы прапажу на мільёны рублёў, усе здзівіліся: ніводнага следу, сігналізацыя ў парадку. Як мог злачынца трапіць у памяшканне і выйсці з яго з гэткай колькасцю выкрадзенага? Адпрацоўваліся розныя версіі. Але ў рэшце рэшт след быў знойдзены. А крыху пазней высветлілася, што дзейнічала цэлая злачынная група з сямі чалавек, трое з якой былі раней судзімыя. Пасля таго, як каштоўнасці былі вынесены, адзін з самых адпетых рэцыдывістаў, не сказаўшы ні слова саўдзельнікам, наламаў яловых галінак, вярнуўся назад у магазін і вымыў на двух паверхах падлогу, скрупулёзна заклаў растворам лаз, ды гэтак прафесійна, што цяжка было западозрыць нешта нядобрае".

Адным словам, у наяўнасці рост колькасці "адмысловых" злачынстваў. І па-даўнейшаму працаваць сёння нельга. Гэта добра разумеюць у следчым аддзяленні і крымінальным вышуку Партызанскага РАУС. Але эфектыўнасць работы можа аказацца нізкай, калі не змогуць утрымаць на службе дзяржаве лепшыя кадры. Зрэшты, няма ніякага сакрэту, што сёння ідзе адток першакласных спецыялістаў "профі" ў сваёй справе з праваахоўных органаў у камерцыйныя структуры, дзе плацяць у тры-чатыры разы больш. На іх месца прыходзяць учарашнія студэнты альбо вяртаюцца назад у органы тыя, хто ў свой час быў звольнены.

Гэта вельмі небяспечная тэндэнцыя. Не можа навічок, напрыклад, малады следчы, весці пазіцыйную барацьбу на роўных са спецыялістам, які мае вялікі вопыт практычнай работы ў органах правапарадку.

"Бягучых пытанняў, на жаль, у нас яшчэ шмат, — працягваў начальнік следчага аддзялення Мікалай Канакораў. — Неабходна, у прыватнасці, рашаць жыллёвыя праблемы, паляпшаць матэрыяльна-фінансавае становішча супрацоўнікаў, каб чалавек адчуваў адказнасць. Аднак гэтыя пытанні на "вярхах" рашаюцца яшчэ не на належным узроўні. Да таго ж, зноў і зноў даводзіцца пераконвацца, што большая частка часу паглынаецца цякучкай, а на галоўныя пытанні, у першую чаргу, на расследаванне злачынстваў часцяком не застаецца сілы".

Так, сапраўды, часу ў следчых іншы раз у абрэз. Разам з тым побач з аператыўнікамі яны абавязаны чамусьці расследаваць злачынствы, ажыццёўленыя ва ўмовах невідавочнасці (угоны аўтамабіляў, матацыклаў і г.д.). А, здавалася б, куды больш важна было расследаваць тыя справы, якія маюць цяжкія вынікі, выклікаюць грамадскі рэзананс. Адным словам, тут добра разумеюць, што дэфармацыя ў адным абавязкова распаўсюджваецца на ўсю канструкцыю, у канкрэтным выпадку на следства. А яны, следчыя, хочуць мець дакладную мяжу. Ад гэтага б толькі выйграла справа. Але асаблівымі ілюзіямі наконт перамен яны сябе не цешаць.

Начальнік следчага аддзялення Канакораў у час нашай гутаркі не вытрымаў, відаць, набалела ў чалавека: "Работнікам міліцыі часцяком замест расследавання злачынстваў, прафілактыкі правапарушэнняў ставяць у абавязак суправаджаць алкаголікаў у ЛПП, у клінікі для праверкі стану іх здароўя, праводзіць праверкі санітарнага стану жылых мікрараёнаў, хоць гэта прамы абавязак органаў аховы здароўя, ЖЭКаў".

Я яму веру і спачуваю. Хоць паспрабуй зразумей, хто што абавязаны рабіць у сённяшняй блытаніне.

...Стракацяць жудаснымі злачынствамі міліцэйскія зводкі. У ліку іх нямала ідэнтычных па сваёй афарбоўцы, звязаных з разбоем, крадзяжом, прастытуцыяй. Вось яшчэ адно паведамленне: дзяўчаты-зладзейкі вынеслі з кватэры аднаго маладога жыхара сталіцы каштоўнасцей на дзесяць мільёнаў рублёў. Для іх, людзей у пагонах, — звычайная справа. А я, калі ўбачыў у той дзень цэлыя тамы крымінальных спраў, заведзеныя толькі ў адным, не самым вялікім сталічным мікрараёне, і тады ж даведаўся пра трагічны лёс хлопца з вуліцы А.Кашавога, так і хацеў спытаць: "Божа, што з намі робіцца?". Хоць, канечне, разумею: адрасаваць гэтае пытанне трэба зусім не да Усявышняга...

## ЛЕТА-94



Лета – пара цікавых вандровак і экскурсій. Рыхтуюцца да іх і гомельскія школьнікі, якія наведваюць станцыю юных турыстаў. Тут яны атрымліваюць неабходныя веды, вучацца правільна карыстацца турінвентаром, пераадольваць перашкоды.

Станцыя знаходзіцца ў выдатна абсталяваным памяшканні, дзе ёсць усе ўмовы для набыцця азоў турызму. Тут працуюць таксама выяўленчы, экалагічны, фотатурыстычны і іншыя гурткі – усяго каля шасцідзесяці. Акрамя таго, на базе станцыі арганізуюцца метадычныя заняткі з выкладчыкамі школ з мэтай аказання дапамогі ў правядзенні краязнаўчай, экскурсійнай, пошукавай работы.

Фота БЕЛІНФАРМа.

## НАВІНЫ АД ГАЎДЭАМУСА

### Без му́кі няма навукі?

Толькі лічаныя адзінкі са шматтысячнай арміі беларускіх абітурыентаў рызыкнулі ў гэтым годзе паспрабаваць шчасця за межамі краіны. Сітуацыя лёгка тлумачыцца. За магчымасць "пагрызці граніт навукі" ў былых саюзных рэспубліках навасепечаным чужаземцам сёння патрэбна выкласці вялікія грошы. Каб канчаткова не замкнуцца ў рамках мясцовай адукацыі, Міністэрства культуры Беларусі і Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі яшчэ ў мінулым годзе падпісалі пагадненне, згодна з якім у творчыя ВНУ суседняй краіны могуць бясплатна прымацца для навучання да шасці беларусаў і наадварот. Лічба, здавалася б, невялікая, аднак гэтым летам жадаючых скарыстаць такі бартэр аказалася яшчэ менш.

Дзве нашы зямлячкі — піяністка і віяланчэлістка — паспяхова вытрымалі экзамены ў Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю. Яшчэ адна прадстаўніца Беларусі залічана ў Санкт-Пецярбургскую дзяржаўную кансерваторыю, дзе будзе вывучаць тэорыю музыкі. Пакуль пад сумненнем далейшы лёс двух беларусаў, якія прайшлі адбор у інстытут кінематаграфіі. Гэта ВНУ адносіцца да Дзяржкіно, а не да Мінкультуры Расіі, таму нашым хлопцам прапанавана заплаціць за магчымасць атрымаць запаветную спецыяльнасць па 1,5 мільёна расійскіх рублёў. Не хоча займацца дабрачыннасцю і большасць вядомых тэатральных вучылішчаў сумежнай дзяржавы.

Аднак нават у тых выпадках, калі бясплатнае навучанне гарантавана, няма ўпэўненасці, што нашы не абдзеленыя талентам суайчыннікі давучацца да запаветнага дыплома. Малой расійскай стыпендыі не хапае і на аднаразовае харчаванне. Таму некаторыя вяртаюцца давучвацца дамоў. Але якія б мілагучныя шыльды ні ўпрыгожвалі нашы творчыя ВНУ, узровень падрыхтоўкі ў іх пакуль яўна ніжэйшы, чым у аналагічных расійскіх навучальных установах.

Зусім іншае становішча ў студэнтаў-расіян, якія вучацца ў нас. Тым больш пры цяперашнім курсе беларускага рубля да расійскага. Праўда, відавочная выгада прывабіла сёлета толькі дзвюх дзяўчат з грамадзянствам Расіі. Яны будуць авалодваць вакальным і скрыпічным майстэрствам у нашай Акадэміі музыкі. З набору мінулага года тут ужо вучацца бясплатна тры жыхары Калінінградскай вобласці. Адзін ураджэнец Смаленска вывучае азы кінематаграфіі ў Беларускай акадэміі мастацтваў.

Ёсць яшчэ адзін трывожны сімптом, які датычыцца падрыхтоўкі ў рэспубліцы творчых кадраў. Цяперашні вялікі конкурс у той жа Беларускі універсітэт культуры — вынік скарачэння набору студэнтаў, што стала тыпова не толькі для гэтай ВНУ. Але мера гэта, як растлумачылі ў Міністэрстве культуры і друку рэспублікі, вымушаная, таму што прыкметна знізіўся ўзровень падрыхтоўкі абітурыентаў.

Зніжаны і прэстыж звязаных са сферай культуры і мастацтва спецыяльнасцей. Нават выпускнікі сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, якія падаюць вялікія надзеі, не спяшаюцца за вышэйшай адукацыяй, а лічаць за лепшае набыць у далейшым сваім "дарослым" жыцці больш высокааплатныя прафесіі і месцы.

Тут ёсць над чым задумацца. Культуру і цывілізаванасць грамадству не прыпішаш. Гэта працяглы і далікатны працэс выхавання. І нельга яго пускаць на самацёк, калі мы сапраўды хочам увайсці ў новае тысячагоддзе цывілізаванай краінай.

Віктар КУКЛОЎ.

## УВАГА! КОНКУРС

### ПРЫРОДА ДАПАМОЖА ПЕРАМАГЧЫ

5000 французскіх франкаў атрымае пераможца фотаконкурсу, які аб'яўлены Саветам Еўропы. Аб'ектам пільнай увагі фотакарэспандэнтаў і аматараў будзе стан навакольнага асяроддзя за межамі ахоўваемых раёнаў. Савет Еўропы мае намер засярodзіць увагу грамадскасці як на пазітыўных, так і негатыўных эфектах уздзеяння чалавека на прыроду. Асабліва на тых тэрыторыях, якія аб'яўлены аб'ектамі еўрапейскага года аховы прыроды на 1995-ы год. У аб'ектывы рэпарцёраў могуць трапіць рэкі і вадаёмы, лясныя і сельскагаспадарчыя ўгоддзі, прамысловая зона рэгіёнаў, турыстычныя сцежкі і стаянкі і г.д. Лепшыя фатаздымкі змесцяць у брашурах і буклетах, на плакатах, прадставяць на выстаўках, якія пройдуць у рамках еўрапейскага года аховы прыроды 1995 года.

Як адзначаецца ў рэгламенце фотаконкурсу, апошні тэрмін адпраўкі работ — не пазней чым 26 верасня 1994 года (па паштоваму штэмпелю).

Наталля НЕВІДОМАЯ.



## Сто артыкулаў

# ФАВАРЫТ, КАРОЛЬ,

## (Станіслаў Панятоўскі

□ Мікола КУЗНЯЦОЎ

### Месца нараджэння і спачыну

Маёвым днём 1989 года ў вёсцы Воўчын, што непадалёку ад Брэста, археолагі пачалі незвычайныя раскопкі. Гэта ўжо была другая навуковая экспедыцыя. І яна ставіла мэтай адшукаць месца пахавання апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У пошуках удзельнічалі польскія археолагі пад кіраўніцтвам З.П'яноўскага. Нашу групу ўзначальваў Алесь Краўцэвіч. У выніку вялікай і руплівай працы беларускія і польскія археолагі знайшлі ў крыпце касцёла пад глыбокім культурным слоем рэшткі труны, кавалкі аксаміту з выявамі арла і цяляці, які з'яўляўся знакам рода Панятоўскіх.

Экспедыцыя закончыла сваю працу ў чэрвені і мела ўсе падставы быць задаволенай. Адкапаная частка шпагі, фрагменты шпоры і эпалеты беспамылкова сведчылі, што менавіта тут знаходзіцца месца апошняга супакою караля Польшчы і вялікага князя Літоўскага. І ўсё ж археолагі былі незадаволеныя. Заставалася адна загадка, якая не давала спакою. Яна хвалявала, абуджала роздум: нягледзячы на двайное перабіранне зямлі і руплівае шчыраванне, археолагі не знайшлі ў каралеўскай труне ні чэрапа, ні костачкі найсвятлейшага манарха. Як ні шукалі, бясследна знікла сярэбраная дамавінка, у якой захоўвалася сэрца гаротнага караля. Сышліся на версіі, што ў гады апантанай барацьбы з рэлігіяй, знішчэння і ганьбавання храмаў астанкі Станіслава Аўгуста Панятоўскага былі перазахаваны, не пакінуты на знявагу і здзек.

Пакідалі Воўчын з тугою. Троіцкі касцёл, некалі велічнае збудаванне, стаяў разбураны, здзічэлы вецер свістаў праз вокны, дахам служылі чорныя хмары... Бяспамяцтва!..

Між тым, ёсць даволі абгрунтаваныя сведчанні, што менавіта тут, у маёнтку Воўчын, 17 студзеня 1732 г. у сям'і мазавецкага ваяводы Станіслава Панятоўскага і ягонай жонкі Канстанцыі, ураджанай Чартарыскай, нарадзіўся хлапчук, якому лёс наканаваў каралеўскую карону.

Па даўняй добрай завядзёнцы арыстакратычных колаў будучага караля добра выхоўвалі, знаёмілі з тагачаснымі ведамі. З рэкамендацыйнымі пісьмамі да высокіх асоб Стась пабываў у Францыі, Англіі, Аўстрыі, Прусіі, каб умацаваць саслоўныя сувязі, свет паглядзець, сябе паказаць, а можа і нявесту нагледзець у набліжаных да тронаў сем'ях. Ладны, прыгожы, з вытанчанымі манерамі юнак не без падстаў песціў славалюбівыя надзеі бацькоў, што прагнулі вызначыцца, заняць больш значнае месца сярод ганарыстай шляхты. Панятоўскія, з выявай цяляці на радавым гербе, не з'яўляліся прыроджанымі "пястамі", уладарамі старажытнай Польшчы, але і не былі апошнімі сярод вяльможнай шляхты. Акрамя Станіслава Панятоўскія мелі яшчэ трох сыноў. Польскія гісторыкі больш крытычна ставяцца да знакамітых братоў. Станіславу ж дастаецца мацней за ўсіх. Суайчыннікі дагэтуль не разабраліся, не даруюць каралю падзелу Рэчы Паспалітай, хоць у ім ён зусім невінаваты...

### "Гаспадыня майго сэрца і лёсу"

Для здзяйснення сваіх задум англійскі пасол Вільямс вырашыў абаперціся на вонкава імпазантнага дваццацітрохгадовага польскага прыгажуна і арыстакрата па звычках і манерах графа Станіслава Панятоўскага, якога ведаў, імкнуўся палітычна адукаваць і тым самым аказваў уплыў на польскі каралеўскі двор.

Летам 1755 г. у свіце сэра Карла Вільямса Панятоўскі прыехаў у Пецярбург. Спрактыкаваны амбасадор адразу ж нанёс візіт Екацярыне, узяўшы з сабою свайго падапечнага. Наслухаўшыся пікантнасцей з прыдворнага жыцця вялікай княгіні, стары грэшнік выказаў Екацярыне гарачую прыязнасць і недвухсэнсоўную мужчынскую палкасць, але быў вымушаны рэціравацца, заўважыўшы яе непрытоеную цікаўнасць да свайго пратэжэ. Не звяртаючы ўвагі на красамоўныя словы пасла, Екацярына шматабяцальна падала Панятоўскаму руку.

Нягледзячы на асабістае фіяска, пасол застаўся задаволены візітам. Малады, прыгожы, аматар мастацтва, тонкі знаўца жанчын і вытанчанай паэзіі, Станіслаў Панятоўскі выгадна адрозніваўся ад усіх папярэдніх мужчын, якіх зведала Екацярына. Закахаўшыся ў адкрытую душу Панятоўскага, перакладчыка "Гамлета", яна і загубіла яго, прымусіўшы сыграць роль Гамлета ў жыцці, на аперэтачным троне...

Але гэта будзе пазней, у 1755 годзе ўсё бачылася інакшым, заўсёдным, рамантычным, вечным.

Панятоўскі таксама кінуўся ў асляпляльны вір кахання. Па ягонаму прызнанню "Екацярына стала гаспадыняй майго сэрца і лёсу".

Екацярына не адпускала Станіслава ад сябе ні на крок. І ён знаходзіўся як у сне. Жартаваў, сыпаў вершамі, насміхаўся з польскага караля Аўгуста III, які безвынікова дамагаўся адклікання Панятоўскага з Расіі. Екацярына і слухаць не жадала аб развітанні. Зусім натуральна, што неўзабаве Екацярына зацяжарыла ад Панятоўскага і 9 снежня 1758 г. між 10 і 11 гадзінамі нарадзіла дзяўчынку, якую назвалі Ганнай. На жаль, пражыла царэўна нядоўга і памерла, да скрухі бацькоў, у маленстве.

І ўсё ж, здавалася, што ўсё складаецца добра. Інакш думала імператрыца Елізавета Пятроўна, якая была ў курсе ўсіх спраў. Яна палічыла за лепшае папрасіць Панятоўскага пакінуць Расію, бо ведала пераменлівасць настрояў вялікага князя.

Ісці насуперак імператрыцы закаханыя не маглі. Яны развіталіся, дакараючы між сабой, імператрыцу за жорсткасць, што разлучыла іх сэрцы.

5 студзеня 1762 г. Елізавета Пятроўна раптоўна, без дай прычыны, памерла. У Панятоўскага заззяла надзея на вяртанне, але Екацярыну ўжо захаплялі іншыя фаварыты...

Ёсць небеспадстаўныя сведчанні, што смерць імператрыцы напярэдадні перавароту паскорылі Екацярына і тагачасны расійскі канцлер Мікіта Панін з дапамогай атруты. Справа ў тым, што адкрыўся ўдзел вялікай княгіні ў супрацьдзяржаўных зносінах з прускім каралём, у выніку чаго руская армія была разбіта.

Елізавета Пятроўна загадала ўсчыніць следства, але Екацярына паспела знішчыць шэраг дакументаў. Пакінуў Расію пасол Англіі Вільямс, французскі двор дамогся высылкі з Пецярбурга Панятоўскага...

У канцы чэрвеня 1762 г. Екацярына стала імператрыцай.

### Новыя надзеі

2 жніўня 1762 г. найсвятлейшая забойца-імператрыца ў пісьме, якое, на нашу думку, памылкова прыпісваецца ёй, як і адрасаванне яго да Панятоўскага, крывадушна апраўдвалася, што не вінавата ў смерці свайго мужа імператара Пятра Фёдаравіча, усё звальваючы на Арловых і іншых змоўшчыкаў.

Вядома, Панятоўскі не паверыў афіцыйнай версіі. Але што тыя версіі, калі адкрыліся магчымасці, ад якіх займала дух. Стась спаў і бачыў сябе мужам Екацярыны. Ён засыпаў імператрыцу пранікнёнымі пісьмамі, рваўся ў яе палкія абдымкі. Каб узнагародзіць былога фаварыта, Екацярына абяцала зрабіць Станіслава каралём Польшчы. Той шчыра адмаўляўся: "Ах, навошта вам рабіць мяне каралём? Як вы не можаце зразумець, што я хацеў бы бачыць ваш прыўкрасны твар на сваёй падушцы..."

Гэта было ўжо занадта.

У 1763 г. памёр кароль польскі і вялікі князь Літоўскі Аўгуст III. Паводле вольнасцей, якія мелі магнацкія вярхі, шляхта пры абмежаванай уладзе выбіраемага караля, у Польшчы і Літве распачалася сапраўдная валтузня груповак. Гэта распальвала анархію ў краіне, давала падставы суседнім дзяржавам умешвацца ў справы Рэчы Паспалітай, куды ўваходзіла і Вялікае княства Літоўскае з яго беларускімі землямі. Гэтаму садзейнічала і тое, што каралі саксонскай лініі не жылі ў Польшчы, не займаліся яе справамі, аддаўшы ўсё на водкуп магнатам з вяльможных родаў. Армія Рэчы Паспалітай была самай невялікай — 16 тысяч салдат. У той час як Расія мела 350 тысяч, Аўстрыя - 280 тысяч, Прусія — 200 тысяч.

Але найбольш абяззбройвалі дзяржаву розныя прыхільнасці магнатаў. Адны арыентаваліся на Расію, іншыя — на Францыю, трэція — на Англію, нехта — на Аўстрыю, Прусію ці нават на Турцыю...

Асаблівай агіднасцю, змовамі вызначаліся мясцовыя соймікі, што доўжыліся гадамі, супраўаджаліся бойкамі, п'янымі застоллямі, дзе талеркі выціраліся хвастамі сабак, што круціліся тут жа ў чаканні абгрызеных костак. Прадстаўнікі процілеглых бакоў хапалі адзін аднаго загрудкі, нярэдка звінелі шаблі...

### Як "згінэла" Польска...

У 1764 г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі стаў каралём Рэчы Паспалітай. Гэта абуджала новыя надзеі караля. І ён сам лічыў, і ва ўладальных дамах Еўропы хадзілі чуткі аб шлюбе польскага караля і расійскай імператрыцы і аб'яднанні краін. Думка была неблагая, відаць, узнікла ў колах вяльможнай шляхты, але Екацярына ніколі не паддавалася на падкінутыя ідэі. Яе больш турбавалі прускі і аўстрыйскі планы падзелу Рэчы Паспалітай.

